


Табе хочацца мець добры нож. Але як выбраць, як адрозьніць добры нож ад кепскага?

Усе новенькія нажы ў краме як быццам добрыя. Дай грошы,—бяры нож—проста любата.

Вось, думаеш, добры ў мяне нож! А на справе—ня тое: возьмеш моцную палку, націсьнеш трохі мацней нажом—глядзіш, гастрыё сагнулася альбо ўсё ў зарубінах і выкрышылася.

Загэтым, калі купляеш нож, не ганіся, каб у ім было многа ўсялякіх інструмантаў. Не ганіся за хараством. Праўда, добры нож амаль заўсёды добра зроблены, але часта за яго хараством хаваецца кепская якасьць нажа.

Калі ты наважыў патраціць на нож грошы, тады ўжо купляй з простых, але самы дарагі нож. Галоўнае—з якой сталі зроблен нож. Якасьць сталі на выгляд пазнаць вельмі цяжка. Перш за ўсё паглядзі на кляймо, якое ёсьць на нажы. Калі нож замежны, нямецкі альбо ангельскі, то амаль заўсёды якасьць сталі добрая. Нашы нажы саматужнай работы вельмі часта зроблены з кепскай сталі, хапя з надворнага боку вельмі прыгожыя. Калі знойдзеш нож, зроблены на дзяржаўным заводзе, то ён, вядома, будзе зроблен з добрай сталі.

Акрамя якасьці сталі, вельмі важна загартоўка. Сталь можа быць і нічога сабе, а калі нож кепска загартованы, то ён нікуды нявартны. Для таго, каб даведацца, як загартованы нож, трэба ўзяць кавалачак шкла і вострым краям правесьці па нажы. Калі на паверхні нажа шкло пакіне невялікія рыскі, то ясна: нож нікуды нявартны. Ён альбо не з сталі, ці кепска загартованы. (Мал № 1).

Сталь, загартованая занадта, таксама нявартна для прыгатаўленьня інструмантаў. З такой сталі нажы няскора тупяцца, але няскора і гострацца. Вельмі добра рэжуць мяккае дрэва, але ў цьвёрдым—вастрыё нажа пачынае крышыцца. Такі нож вельмі лёгка зламаць. Злом нажа мае мяккі шэры колер і складаецца з самых дробненькіх зернятак. Па злому сталі вопытны чалавек адрозьнівае сорт сталі.

Упэўніцца, як мяняецца ўласьцівасьць сталі ад загартованасьці, ты можаш, калі папробуеш загартаваць кавалачак зломанай іголкі альбо тонкай спружыны. Такім чынам ты можаш зрабіць сабе заадно і інструмант для распазнаваньня якасьці нажа яшчэ лепшы, чым шкло.

Вазьмі йголку, абламі ёй вушка і ўваткні яе ў якую-небудзь палачку, каб можна было яе нагрэць, не папёкшы рук, дачырвана, і вельмі хутка апусьці ў ваду. Для таго, каб іголка хутка папала у ваду, трэба пасудзіну з вадой паднесьці блізка да агню. Іголка павінна папасьці ў ваду яшчэ чырвонаю. Іголка, хутка

*(Працяг гл. на 3-й стар. вокладкі).*

## ЗЬМЕСТ.





Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 19** **КАСТРЫЧНІК** **1927 г.**

## КОМСАМОЛЬСКІ СУБОТНІК

Для азначэньня 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі конкрэтнымі грамадзка-практычнымі мерапрыемствамі ЛКСМ організоўвае комсамольскі суботнік, сродкі ад якога пойдуць: у гарадох—на барацьбу з дзіцячай бяспрытульнасьцю і беспрацоўем сярод моладзі, у вясковых мясцовасьцях—на грамадзкія патрэбы: рамонт школ, хатчытальняў і інш.

У суботніку к 10-годзьдзю Кастрычніка павінна прыняць удзел піонэрская організацыя і неорганізаваныя дзяці.

Мала таго, каб піонэры і неорганізаваныя дзеці знаёміліся з барацьбой дарослых у мінулыя часы толькі па гутарках, трэба азнаёміцца з іх практычнай работай на заводзе, фабрыцы, у вёсцы, прыняць удзел і дапамагчы, дзе гэта магчыма.

Наш удзел у комсамольскім суботніку для вясковых організацый можа выявіцца ў наступным:

Правядзеньні практычных мерапрыемстваў, прыкладна, абсыпаць пяском студню, якая трымаецца ня ў спраўнасьці, зрабіць ачыстку каля сельсавету, школы, клюбу. Такая работа ня вельмі цяжкая і яе ў вёсцы знойдзецца многа.

Вясковыя школы часам знаходзяцца ў вельмі дрэнным становішчы: нячыста, холадна. Тут можна правесьці розныя работы: організаваць сумесна з комсамольскай ячэйкай дастаўку дроў для школы, зрабіць у школе вешалкі, скрынкі для пляваньня.

Часам у вёсцы няма чытальні, альбо мала выпісваецца газэт ці зусім іх няма. Тады праводзіцца сумесна з ячэйкай комсамолу належная работа: організацыя чытальні, збор надпіскі на газэты і часопісі сярод сялянства, абсталяваньне клюба.

Для гарадзкіх організацый работу знайсьці значна цяжэй, чым для вясковых. Яны амаль што ня могуць знайсьці работы на фабрыках і заводах. Адсюль—да ўсякіх работ піонэры прыцягваюцца па погляду камісіі, якая кіруе правядзеньнем суботніка на фабрыцы ці заводзе. Гарадзкія піонэр-атрады могуць знайсьці для сябе і такую работу:

Зрабіць ачыстку пасьля працы на заводзе, дзе працавала комсамольская ячэйка. Піонэр-атрады, школы могуць організаваць дапамогу вясковым атрадам і школам: пасылка для іх вучэбных прылад, выпіска газэт і часопісяў.

Пры жаданьні кожны піонэрскі атрад можа знайсьці для сябе хоць невялікую работу, організаваць і правесьці яе і гэтым прыняць удзел у правядзеньні комсамольскага суботніку.

# НяЗвычайная Прынада

*Апавяданьне* **Я. Маўра.** *Малюнкі* **Кашкеля.**

Маці падышла да круглага бамбукавага кошыка, аблепленага з абодвух бакоў гноем, глянула туды—і сэрца яе сьціснулася: тамака заставалася толькі жмені са дзьве рыжу. Хоць яна гэта і раней ведала, але, калі прышлося яго брадь, яна ізноў, з яшчэ большай сілай, адчула гора.

— Рыж ужо ўвесь,—сказала яна бацьку.

Той сядзеў на скрынцы, глядзеў на гліняную падлогу, утырканую каменчыкамі, і, відаць, думаў невясёлую думу. Ён даўно ўжо чакаў гэтага моманту, даўно ўжо думаў, як дацягнуць да ўраджаю, але пакуль што нічога ня прыдумаў. Суседняму гандляру, арабу Гаміду, ён і так ужо завінаваўся пад гэты ўраджай. Цяпер ужо нічога ня дасьць.

Але ня ў гэтым яшчэ галоўная бяда. Бяда ў тым, што і ўраджаю ніякага можа ня быць. Вось ужо месяц, як мусоны [1]) ня прынесьлі ані кроплі дажджу,—і ўсё гіне пад палючым індыйскім сонцам. Нават травы няма і вол ледзь падтрымліваецца лісьцем з дрэў.

Перад жыхарствам ужо лунае жудасная здань голаду, які абавязкова вядзе за сабой і чуму. А гэтыя два сябры часта ў працягу некалькіх тыдняў уносяць столькі народу, колькі ёсьць ва ўсёй іншай дзяржаве, як Бэльгія, Нарвэгія і шмат іншых.

Асан вышаў на дзядзінец, падышоў пад страху, чамусьці пакратаў свой «плуг»—корч з двума канцамі, карацейшым (лямех) і даўжэйшым (аглабля), зірнуў на барану з гальля, пагладзіў па шыі сваёго вала. Калі дадаць да гэтага хату, абы як складзеную з каменьняў, з земляно і столью, бяз даху,—дык гэта і будзе ўся гаспадарка Асана. А поле? Лепш аб ім і не казаць. Гэты камяністы кавалачак у нас і за зямлю ня лічыўся-б.

Адна толькі надзея на «сад», які складаўся з двух монгавых дрэў ды аднаго так званага «гарбузнага» дрэва. На іх яшчэ было некалькі пладоў. Ды «гарод» пад імі меў некалькі бабоў ды засохшых гуркоў. Але ўсё гэта было нібы прысуджанае на сьмерць, блядое ад пылу.

І ўся вёска была нібы засуджанай. Паўголыя людзі ў штанох і цюрбанох [2]) ледзь рухаліся па сонцапёку ды пазіралі на неба, прагнучы дажджу.

— Можа-б яшчэ раз спрабаваў ты знайсьці працу на плянтацыі, параіла жонка, вышаўшы на двор.

— Дзе там,—безнадзейна матнуў рукой Асан, але на кожны выпадак парашыў пайсьці.

Тут ён заўважыў, што на самым версе мангавага дрэва сядзіць яго дзесяцігадовы сын Сідры.

— Ты чаго гэта туды ўзьлез?—крыкнуў бацька.—Астатнія плады нішчыць? Ці ты ня ведаеш, што іх трэба берагчы? Як табе ня сорамна? І тваім сёстрам і бацьком патрэбна, а ты хочаш адзін іх зьесьці. Зараз-жа злазь!

— Не, я ня рву, я толькі так, паглядзеце,—апраўдваўся сын, злазячы ўніз.

Асан накіраваўся да бавоўнавай плянтацыі містэра Гопкінса.Ісьці трэба было кілёмэтраў восем. Усё навокал напамінала пра няшчасьце, усюды пажоўклая трава, пабялеўшыя дрэвы. Па дарозе было яшчэ некалькі вёсак, дзе таксама жылі галодныя людзі, якія таксама жадалі заробку, як і Асан. Дзе ім зусім знайсьці яго? Асан добра гэта разумеў, але ішоў

[1]) Мусоны—вятры, якія дзьмуць паўгода ў адным напрамку, паўгода ў другім.

[2]) Цюрбан—кавалак матэрыі, абкручаны вакол галавы.

абы ісьці, абы супакоіць сябе, што ён нешта робіць для свайго ратунку.

Вось направа ад дарогі сярод гаю уздымаецца «Вежа Маўчаньня». Асан зірнуў і ўздрыгануўся. Колькі разоў ён хадзіў тутака, але ніяк не зварачаў на яе ўвагі; цяпер-жа мільганула думка:

— Можа скора прыдзецца трапіць туды?

І ён прыпомніў, як 15 год назад быў голад і чума, як людзі валяліся па вуліцах, дарогах, як усе хаты былі поўныя мерцьвякоў, як людзі у белых балахонах зьбіралі іх, як дровы, і адвазілі ў «Вежу Маўчаньня». Там іх распраналі і клалі ў шэрагі. А ў паветры насіліся хмары вараньня; яны чакалі сваёй «законнай» здабычы, бо мерцьвякі клаліся спэцыяльна для іх.

Вось і цяпер некалькі груганоў чакаюць не дачакаюцца, пакуль голад і чума дадуць ім баль.

Пачаліся і плянтацыі. Але ім нішто не пагражае: сярод поля равы з вадой, якую наганяюць сюды машыны.

— Во, каб і па вясковых палёх таксама зрабіць!—з зайздрасьцю падумаў Асан.

На плянтацыі працавала шмат шчасьліўцаў за некалькі капеек у дзень.

— Куды тутака яшчэ совацца?—із ноў падумаў Асан, але пайшоў далей. Ля маёнткавай брамы ён знайшоў некалькі такіх, як ён сам.

— Ну, што? І ты прыйшоў шукаць працы?—запыталіся яны ў яго.

— Не,—адказаў Асан,—я так сабе, па іншай справе.

— Можа сына прышоў прапанаваць? Ты здаецца, маеш хлопчыка?—сказаў адзін мужчына.

Асан недаўменна паглядзеў на яго.

— Эх, шкада, што ня маю—адазваўся, другі:—заробак добры і лёгкі.

— Што такое вы кажаце? Не разумею,— адказаў Асан.

— Ня чуў?—запытаўся адзін з рабочых:— вось зірні,—і ён паказаў на газэту, прылепленую да сьцяны.

— Я ня ўмею чытаць,—адказаў Асан.

— Ну, дык я прачытаю,—сказаў адзін з рабочых, і прачытаў наступнае:

«Патрабуюцца здаровыя, кормныя дзеці для прынады пры паляваньні на кракадзілаў. Будуць зьвернуты у цэласьці» [1].

Спачатку Асан усё роўна ня мог уцяміць, у чым тут справа. А калі яму растлумачылі, дык ён проста плюнуў ды пайшоў назад. Але пакуль ён ішоў дадому, ён пачаў разважаць аб гэтым і мала-па-малу справа пачала здавацца яму не такой ужо бяссэнсоўнай, як на першы погляд.



— Рыж ужо ўвесь,—
сказала яна бацьку

Папершае, кожны паляўнічы і сам заўсёды рызыкуе сваім жыцьцём, аднак-жа ўсе, у тым ліку і сам Асан, не адмовіўся-б, калі-б здарыўся добры выпадак. Значыцца, яго сын будзе рызыкаваць ня болей за кожнага паляўнічага. А калі прыняць пад увагу, што ангелец будзе добра ўзброены, і, апрача гэтага вядома, што ангельцы наогул добра страляюць, дык тады рызыка зусім ужо становіцца нязначнай.

Але-ж затое за адзін ці два дні можна зарабіць столькі, колькі не заробіш за месяц.

[1]) Факт сапраўдны. Абвяшчэньне ўзята слова ў слова.

Хоць ен і ня ведае, колькі іменна можна атрымаць, але можна меркаваць, што за такую нязвычайную справу і заплоцяць нязвычайна. Тады ўжо можна будзе спадзявацца перачакаць голад. А калі не скарыстаць гэты выпадак, дык тады ўсё роўна загіне сын, ды і яны разам.

Дадому ён ужо прышоў перакананы, што рызыкнуць варта. Ён ведаў, што цяжэй за ўсё будзе пераканаць маці. Каб ухіліцца гэтага няпрыемнага абавязку, ён парашыў зусім ёй нічога не казаць. Ён пойдзе з сынам на некалькі дзён, а потым прыдзе з ім і з грашыма.

* *
*

У пышным праходным пакоі сядзеў містэр Гопкінс і яго прыяцель сэр Джоа Блэнсдорф.

— Як вам здаецца, ці знойдзецца хто?— казаў Блэнсдорф.

— Знойдзецца!—перакавана адказаў гаспадар.—Гэтага дабра колькі хочаш. Ды і ня раз гэтак ужо практыкавалася.

— Вось буду дзякаваць табе за раду,—горача сказаў Блэнсдорф.—А то была-б вельмі няпрыемная гісторыя: прыехаць з такога далёку і нават ня бачыць кракадзіла. Усё роўна, што быць у Рыме і ня бачыць папы.

— Праўда, кракадзілаў цяпер стала значна меней,—тлумачыў Гопкінс:—але ўсё-ж такі досыць. Толькі яны вельмі асьцярожныя зрабіліся. Нават на цялё, ці авечку ня йдуць. Толькі супроць дзіцячыны ўстрымацца ня могуць.

— Уяві толькі сабе,—з захапленьнем казаў Блэнсдорф,—якія вострыя пачуцьці можна перажыць, калі ведаеш, што ад цьвёрдасьці тваёй рукі і вернасьці вока залежыць жыцьцё чалавека.

— Ну, якога там чалавека,—усьміхнуўся Гопкінс.

— Але ўсё-ж такі сачыць, як набліжаецца, як пагражае праглынуць,—і вось раптам ты зьяўляешся збаўцам. Ня кожнаму гэта здараецца. Шмат хто пазайздросьціць мне, калі вярнуся ў Лёндан.

— Так, паляваньне цікавае,—роўнадушна згадзіўся Гопкінс.

Увайшоў слуга і данёс, што прывялі некалькі дзяцей.

— Нават некалькі?—абрадаваўся госьць.

Дзяцей было 8 чалавек. Кожны бацька жадаў, каб яго дзіця абралі, і скоса пазіраў на конкурэнтаў.

«Шчасьліўцам» зьявіўся Сідры...

* *
*

Па-над джунгляй [1]) стаяла ноч. Магутны Ганг імчаў свае чорныя хвалі.

На пакатым беразе пад купай бамбуку сядзеў Сідры. Абсталявалі яго пацарску: сядзеў ён на белай падсьцілцы, ля яго былі розныя смачныя рэчы, такія, якіх ён ня толькі ніколі ня еў, але і ня бачыў: і шаколяд, і піроўнае, і пячэньні, і розныя цукеркі, нават цацкі.

Толькі, каб ён ня ўцёк зарана, яго прывязалі да дрэва.

Яго абавязкам было ня спаць і варушыцца. Дзеля гэтага яго ўдзень да адвалу здорава накармілі і прымусілі выспацца.

За некалькі крокаў разьмясьціліся Блэнсдорф і яго слуга, а побач Асан.

Пацягнуліся хвіліны. Ноч паглыблялася. Далёка з-заду пачуліся галасы зьвяроў. Паступова ўздымаўся месяц.

Час ад часу Асан моцна шаптаў:

— Сідры, ня сьпі. Сідры, варушыся. Пабразгай. Скажы што-небудзь. Ня бойся, мы тутака і г. д.

Гадзіны са тры хлопчык добра трымаўся, але потым пачаў дзюбаць носам.

Месяц зусім асьвятліў раку. Вось пасярэдзіне сярод серабрыстых струменяў нешта плюхнулася і зачарнелася.




[1]) Зарасьнік, пушча ў Індыі.

— Няхай варушыцца. Няхай варушыцца. Ён, паганы, здаецца, сьпіць,—нецярпліва зашаптаў Блэнсдорф.

— Сідры, ня сьпі! Варушыся!—забурчаў бацька.

Але Блэнсдорф цяпер ужо вызьвярыўся на Асана:

— Цішэй! Спалохаеш кракадзіла!

Тады бацька пачаў кідаць у сына зямлёй, трэскамі. Хлопчык схамянуўся, заварушыўся, пачаў азірацца.

Кракадзіл, відаць, ужо заўважыў яго і асьцярожна пачаў набліжацца да берагу. Праз некалькі хвілін ён зрабіўся сьмялей: мусіць, заўважыў, што гэта не паляўнічы, а дзіцянё. Вось ужо галава зьявілася ля самага берагу.

Хлопчык убачыў страшыдла, закрычаў і кінуўся бегчы, але вяроўка затрымала яго, і ён паваліўся на зямлю. Асьцярожны кракадзіл, пачуўшы шум і крык, адхіснуўся быў назад, але ўбачыўшы, што тутака толькі б'ецца бездапаможнае дзіця,—ізноў пасунуўся наперад

Настаў самы жудасны момант. Няшчасны хлопчык рваўся, дрыгаў нагой і крычаў так, што нават сэрца Блэнсдорфа пахаладзела і рукі затрасьліся. А кракадзіл падпаўзаў... Бацька застагнаў: «хутчэй, хутчэй».

Вось ужо дзьве стрэльбы добра нацэліліся...

Але раптам побач раздаўся вейкі рык. Паляўнічыя мімаволі азірнуліся, а тымчасам кракадзіл ухапіў хлопчыка за нагу і пацягнуў у ваду...

Тады толькі раздаліся два стрэлы, ізноў



...ГАЛАВА ЗЬЯВІЛАСЯ ЛЯ САМАГА БЕРАГУ

два. Кракадзіл задрыгаў целам і зрабіўся нярухомы... з нагою хлопчыка ў роце. .

. . . . . . . . .

Добрыя паны выратавалі Сідры. Ён застаўся жывы, толькі страціў нагу. Але-ж затое за гэтую нагу сям'я кармілася некалькі месяцаў.

А потым... потым ізноў зажылі таксама, як і раней.






Поэма піонэра **К. Шавеля**

Малюнкі вучня **Ракава**

## Частка другая.

### I

Прачытаўшы, Сьцёпка ліст той
Аглядаў хвілін са дзьве...
«Значыць, Ўладзік гарманісты
Да сябе мяне заве!»

Але-ж бацька мой ці пусьціць?
Можа злосна загудзе:
— Ой, сынок, ня будзь распустай,
Прападзеш ты там шчэ дзе?!

Папытаю,—як папала:
Або пусьціць, або не?
Бацька-ж мой злуецца мала,
Асабліва на мяне.

### II

Ў хаце лямпа запылала
Сьветам яркім, залатым.
Было радасьці ня мала
У Сьцяпана часам тым.

Бацька ўжо прышоў з работы,
Распрануў тут свой кажух.
— Тата, тата...
— Ну, чаго ты
Раскрычаўся на ўвесь дух?

Бацька словы жартам кінуў,
Сьцёпка ўзяў у рукі ліст:
«Сёньня мне прыслаў навіну
Той Уладзік гарманіст».

— А навіна-ж там якая,
Прачытаў што ў лісьце ты?
— Ўладзя ў горад запрашае,
Каб прыехаў я туды...

— Ці-ж ня зблудзіш ты часамі?
Штось ня верыцца тут мне...
— Разважайце, тата, самі:
Заблуджу я або не...

Я патраплю, блізка горад—
Колькі тут тае хады...

Умяшалася і матка: «Молад
Дапінаць усюды ты!»
— Не тваё, Агата, дзела!
Ты павінна гэта чуць.
Едзь у горад, Сьцёпка, сьмела,
Але доўга там ня будзь.

### III

А назаўтра рана, рана
Ўстаў з пасьцелі наш Сьцяпан,
Паабедаў і у торбу
Хлеба ўзяў з сабой крышан.

Лыжы ўзьдзеў свае на ногі
І пачаў кіямі пхнуць.
І ану, ану ў дарогу—
Шлях вялікі адмахнуць!

Гурбы сьнегу навакола
Вышынёю больш каня,
А Сьцяпан, Сьцяпан вясёлы
Прэ на лыжах—на санях.

Зьнік даўно ўжо сад саўхоскі,
Змогся Сьцёпка ўжо крыху.
Хутары, пасёлкі, вёскі
Спатыкае на шляху.

«А да гораду далёка
Яшчэ будзе ехаць мне!
Мусіць, ночка чорнавока
У дарозе ахіне?

Ды дармо, заеду ў вёску»...
І на гэтым Сьцёпка змоўк,
Бо ў кустох пачуўся лёскат:
На дарогу вышаў воўк...

Ну, а вочы, жудасьць вочы!—
Злосьцю зьверскаю гарэць.
Яго зубы сьмерць прарочаць...
«І куды тут уцякаць?»

. . . . . . .

... Лыжы едуць, едуць, едуць,
Толькі курыць сьнежны дым...
Ну, а воўк мой сьледам, сьледам,
Усё бяжыць за ім, за ім.

То пракляты зубы скаліць,
То наперад забяжыць...
Думкі ў Сьцёпкі тут паўсталі
«Мо ня буду болей жыць?..»

«А куды-ж ты, гад, брадзяга!» —
Раптам крыкнуў так Сьцяпан.
Воўк ня даў назад ні шагу:
Ён цяпер над Сьцёпкам пан!

«Што рабіць мне з гэтым падлам?
Вось папаўся—на табе!»
Зубы скаліць воўк заядлы,
Забяжыць ды сьнег грабе.

«Ну, пастой-жа, гад ты, злыдзень!
Кажуць ўсе: на страхі плюнь!
Хай адно сюды падыдзе—
Лыжай рыла рашчаплю!»

Так ішоў, ішоў хлапчына
Да сялянскага гумна.
Тут з падмогай селяніна,
Кіем воўка адагнаў.

Сьцёпку ночка чорнавока
Не агорне між палёў.

. . . . . .

Горад дзе?—яшчэ далёка.
У дарогу заўтра зноў!..

IV

Ён спаткае
Горад з захапленьнем,
Аб якім
Ня мае і ўяўленьня.



*Лыжы ўзьдзеў свае на ногі і пачаў кіямі пхнуць.*

Бо прывык ён
Да палёў зялёных
І да шэлесту...
Асінаў, вязу, клёнаў.

. . . . . .

Зноў сьнягі, сьнягі, паляны
І дарога-далячынь.
Здэцца-б юнага Сьцяпана
Ня стрымаў цяпер нічым.

Сьнег сыпучы рэжуць лыжы,
Шмат бадзёрасьці ў нагах,
А да гораду ўсё бліжай,
Што ні крок—каротшы шлях.

«Эх, прастор, эх, шлях той любы,
Ты ня стоміш ног маіх!»
Ехаў Сьцёпка, покуль трубаў
Ня убачыў гарадзкіх.

## Частка трэцяя.

I

Ці гэта так здаецца,
Ці гэта так і ёсьць?
У яго каля варотаў
Пытае сторож: «Хто ты?»
Няўжо Сьцяпан—мой госьць?

Ах, так! Уладзікаў равесьнік
Прыехаў да мяне.
Навін прывёз ён многа...
Ах радасна, як мне!..

* *
*

Вышаў Уладзік на двор,
Бачыць Сьцяпанку ён,—Ах!
Ці здароў, ці ня хвор?
У Сьцёпкі лыжы ў руках.

Тут ня хваціць і слоў
Радасьць іх апісаць.
Хтось шырокім вяслом
Горне радасьці шмат.

Яны ў хату ўвайшлі.
— Як прыехаў?—кажы,
У калідоры свае
Лыжы, брат, палажы.

Мова ў іх паплыла
І за сказам тут сказ.
Вось і ў хату ўвайшла
Волька тут-жа якраз.

Распасьцёр як вечар свае крыльлі,
Атуліў кватэру чорны змрок,—
Электрычнасьць ў хаце запалілі;
Гэта надта дзіўны ліхтарок!

За якуюсь трубку ўзяўся Уладзя,
На ўсю хату пачало сьвяціць.
«Ах, каб дома тата гэта ўладзіў,
Сьвету поўна й нават ня дыміць.

— Чуеш, Сьцёпка, заўтра наша школа,
На экскурсію па горадзе ідзе».
Эх, які Сьцяпанка быў вясёлы:
Ноч зімовая мінай, хутчэй-бы дзень!

II

У паветры гул...
Камяніц абрусы.
І гудуць, гудуць,
Навокал аўтобусы.

Тротуарам-жа
Савецкай вуліцы
Люд ідзе,
Сьпяшаецца,
Хвалюецца.

Аўтобусы,
Конкі, конкі,
Што бягуць у перагонку,
Камяніцы, камяніцы...
Эх Чырвоная сталіца,
Сьвету й радасьці
Крыніца!

III

Музэй дзяржаўны.
Гэта мур вялікі,
Ах, як яго
Быў Сьцёпка рад глядзець.
Цікавых рэчаў
Знойдзеш там бяз ліку.

— Уладзік, глянь -
Які страшны мядведзь!
А колькі там
Магнацкіх розных гэрбаў!
А колькі пацеркаў
Ў вачох яго цьвілі!

— Гэта профэсар наш,
Профэсар І. А. Сэрбаў.
Дзесь у кургане
Выкапаў з зямлі.

А вось саха,
Якой даўней аралі,
А вось сталь
Даўнейшы там салдат,
А вось машына,
Што калісьці пралі,
Вось князь, вось грошы,
Ай, ды дзіваў шмат!..

IV

У жыцьці ёсьць час такі—
Ёсьць у жыцьці хвіліна тая,
Калі радасьці вянкі
З захапленьнем заплятаеш.

К Сьцёпку гэты час прышоў,
Гэтай радасьці хвіліны.
Сёньня з вучнямі ішоў
У музэй рэволюцыйны.




*Даўнейшы там салдат.*

Шмат там бачыў пекнаты,
Дзіваў там ён бачыў многа.
На малюнку пекным тым
Бачыў Леніна „жывога“.

І было усюды там:
«Не чапаць рукамі».
Бачыў ён, як паўставаў
Каліноўскі з мужыкамі.

Вось і царскі маніфэст
Быў за шклом ў асадцы новай.
Ну, а тут вось робяць фэст
Піонэры ў дзень ліпвёвы.

Цяжка на‘т пераказаць,
Колькі Сьцёпка бачыў дзіваў.
Мусіў ён адтуль шагаць
І вясёлы і шчасьлівы.

Восем дзён пражыў Сьцяпан
У тым горадзе вялікім,
І кожны дзень ён бачаў там
Усюды новае бяз ліку.

V

Зноў Сьцяпан туды вярнуўся,
Дзе панура шэпча клён.
Ён у радасьці скупнуўся
Вось за тыя восем дзён.

І на зборы на атрадным,
Што адбыўся раз у дзень,
Прад усімі ён парадкам
Што у горадзе глядзеў
Перадаў жывым малюнкам...

. . . . . . .

Па гасьцінцы па шырокім,
Што бярозамі аброс,
Ідзі на захад, недалёка
Напаткаеш ты саўхоз.



І у тым саўхозе з краю
Прад вачмі убачыш ты:—
Хатка бедная, старая,
А кругом яе кусты.

# Пабылі ў садзе і ў руках у дзядзі.

**У вёсцы Кухцічы, Узьдзенскага раёну, ёсьць хуліганы, якія ноччу лазяць у чужыя сады і страшна іх апустошваюць.**

Вясковыя хлопцы—
Янка, Клім, Кандрат—
Думалі, гадалі
У чый-бы ўлезьці сад?
Добра было-б улезьці
У Ігнатаў сад,
Толькі-ж ён вартуе
Кожну ночку, гад.
Вось яны падходзяць
Позна ў саму глуш,
Хочацца парваць ім
Сьпелых яблык, груш.
Кандрат—хлопец сьмелы,
Дваццаці гадоў,
Шмат ужо спустошыў
Ён чужых садоў.
Першы ён падходзіць,
Сьмела стаў на плот
І палез на дрэва
Спраўна, быццам кот.
Усьлед за Кандратам
Прэцца Янка й Клім,
І шукаць пачалі
Салодзенькіх сьліў.
Цёмнай ноччу ў садзе
Процьма іх кішыць,
А пад кустам дзядзя-
Вартаўнік ня сьпіць.
Зглядзеў ён Ігнатка—
Нечага драмаць:
Падбягае к дрэву
За Кандрата—хваць!
З вялікага пуду
Тут Кандрат—у крык.
Цягне яго з дрэва
Вартаўнік стары.
Бачыць Янка з Клімам:
Дрэнна справа тут!
З саду як вар‘яты
Бяз памяці прудь.
Хацеў пераскочыць
Янка цераз плот.
Падраў твар і рукі
Аб калючы дрот.
Прышлося у садзе
Крута ўсім траім:
У бульбяну яму
Уваліўся Клім;
Прывязаўшы к дрэву
Кандрата, Ігнат
Падбягае к яме
Злосны сам, як гад.
З вялікага пуду
Клім чуць не памёр...
Просіцца ў Ігната,
Плача, як бабёр.
Вядзе ў сад назаўтра
Ігнат панятых,
Выпускае з плену
Хуліганаў тых.
Бачаць хлопцы—дрэнна
Справа вышла тут:
На іх перадалі
У народны суд.

**Янка Шавель.**




Расьцягнулася стэп, як мора... Цягнік хутка, хутка сьпяшаецца да месца апошняй астаноўкі, але дзе там астаноўка—хіба ў Мінэральных Водах крыху адпачне. А там—далей, аж да Закаўказьзя, дзе Ціфліс, Баку, Батум...

Вялікая стэп зьмяняецца нявысокімі горамі, якія за некалькі дзесяткаў вёрст пачалі віднецца з-за небасхілу.

Пяцігор'е. Тут—Беш-Таў, Машук, Зьмейка, Жалезная, Вярблюдка... Гэта тыя самыя горы, у падножжа якіх раскінуліся прыгожыя мясьціны—савецкія курорты. Тут тое месца, куды з усіх пунктаў вялікага Савецкага Саюзу едуць працоўныя паправіць сваё здароўе.

Мінавалі шчасьлівыя дзянёчкі былых уладароў гэтых мясьцін, дзесяць год, як перасталі красавацца тут людзі белае косьці, перасталі быць уласьнікамі ня толькі фабрык, заводаў, але і лепшых прыродных месц.

Гарачая вада, не раўнуючы, як з самавару, гарачыні ў 55 градусаў, нарзанавая вада, якую мы часта п'ём у сваіх сталоўках, бяжыць тут з зямлі дзень і ноч.

Вада мае вельмі вялікую лячэбную каштоўнасьць, ёю лечаць розныя хваробы—сэрца, нэрвы, лёгкія, жывот, печань...

* *
*

Станцыя Беш-Таў уся ў зелені. Пачынаем сябе адчуваць, што знаходзімся на сапраўдным Каўказе. Часта забываешся, што гэта месца знаходзіцца далёка, далёка ад Масквы, Ленінграду, бо і там можна адчуваць падобны рух.

Цягнікі адыходзяць бяз усякіх званкоў, праз кожныя дваццаць хвілін, а ў сьвяточныя дні нават часьцей. Наглядаеш другую крыху публіку, больш іх у белых вопратках, санаторнага фасону, пашытых з белага простага фабрычнага палатна. Шмат хто тут першы раз.

Дзе той Жалезнаводзк, дзе той Кіславодзк?—з нецярплівасьцю чакае кожны. Невялічкія цягнікі, мала зусім падобныя да звычайных чыгуначных, вандруюць у гарах. Глядзіш на яго з нейкім зьдзіўленьнем, як быццам-бы першы раз убачыў цягнік.

— Мама, ці хутка прыедзем?—пытаў некалькі разоў у маткі невялічкі хлапчук,—відаць, даўно абрыдла сядзець у цягніку. Відаць, здалёку...

— Вось і Жалезнаводзк,—адказаў праважаты вагону.

Гара Жалезная пакрыта вялікім лесам—дуб, граб і рознае карчаўё, зьнізу-ж бачыш маленькія корчыкі або зялёную мураву.

Ні то горад, ні то лясное пасяленьне, цяжка спачатку ўявіць. Сказаў-бы, што месца падобна на нашу беларускую палянку з будынкамі лясьніка, але віднеюцца двух, 3-х, 4-х павярховыя дамы. Гэта санаторыі, клінікі з рознымі габінэтамі, ванны і інш.

Далей пройдзеш—перад вачыма адзін з буйнейшых санаторыяў імя Бухарына. Там пролетары з розных куткоў Саюзу—гарнякі, мэталістыя, чыгуначнікі, тэкстыльшчыкі.

* * *

Кожнаму, хто прыедзе на курорт, пражыве там тыдзень або два, здаецца, што няма ніякае папраўкі, а на самай справе гэта ня так.

Вага кожнага хворага мала павялічваецца, бо прыходзіцца многа выконваць усялякіх лекавых працадур. Напрыклад, узяць мінэральную ванну (ванну з мінэральнай вады), пасьля яе скарыстаньня адчуваеш сябе вельмі змораным. Затое з цягам часу, і асабліва пасьля лячэньня, адчуваеш вельмі значнае паляпшэньне.

Ува ўсіх санаторыях уведзены строгі рэжым. Усе санаторнікі выконваюць яго акуратна. Лажацца спаць і ўстаюць раніцой у вызначаны час. Пасьля абеду існуе так званы «мёртвы час», калі хочаш ня хочаш, а трэба ляжаць на ложку распранутым вызначаныя гадзіны.

Каб захаваць сваё здароўе, трэба ўвесьці сталы рэжым у жыцьці і рабоце. Пры адсутнасьці рэжыму здароўе хутка растрасаецца і чалавек робіцца нядольным выконваць абавязкі даручанай работы.



Жалезнаводзк. Відаць санаторыі.

Вось чаму кожны з нас з самага маленства павінен прывыкаць да ўстаноўленага сабе рэжыму, павінен выкідаць з свайго жыцьця ўсё лішняе.

**М. Краж.**



## Мы плывём па рацэ...

Мы плывём па рацэ... Берагі у трысьці.
Берагамі аеры шумяць...
Кроплі чыстай расы хочуць спасьці, зысьці
У люстрана-крыштальную гладзь...
Вось па рэчцы прабег у нязнаную сінь
Ветра ціхага лёгкі павеў...
Мы плывём па рацэ, і ў далёкай высі—
— Агнязорнае сонца плыве.
Ад удару вясла разышлось кола хваль,
Разышлося і зьнікла ізноў...
Толькі лодка плыве ў сонцавейную даль
Між паросшых травой берагоў...
Сонца сьветлы прамень разганяе туман,
Што ўстае над люстранай вадой...
Разгартаецца дзень... Між зялёных палян
Мы плывём па раце залатой.

Піонэр **Юлі Таўбін.**

# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Наш атрад к сёнешняму дню.

Першы атрад у Капылі зорганізаваўся 8-га жніўня 1924 г. У склад яго ўваходзіла 8 чалавек. Але атрад пачынае паступова расьці. Павадыру атраду ўсякі дзень сыплюцца дзесяткі заяваў аб прыняцьці ў піонэры, ці, як іх тады называлі, „спартакаўцы“.

Галоўнымі заняткамі тады былі наступныя: усякі дзень рана ўстаўшы спартакаўцы йшлі ў лес, дзе яны займаліся фізвыхаваньнем. Удзень гэтак сама зьбіраліся для гуляньня. А ўвечары зьбіраліся ў клюб, дзе кіраўніком групы наладжваліся даклады.

У групу паступалі як дзеці беларусаў, так і яўрэяў. Гэта і выклікала неабходнасьць разьбіць усю групу на дзьве— на беларускую і яўрэйскую.

Вось з гэтага часу і пачынаецца праца. Абодва атрады працуюць на сваіх родных мовах: на беларускай і яўрэйскай.

### Праца з неорганізаванымі дзяцьмі.

Сяляне, уведаўшы, што іх дзяцей у атрадзе нічому кепскаму не навучаць, а толькі добраму, пачалі выпраўляць іх у атрады. (Праўда, некаторыя трохі крыўдзіліся, што піонэраў навучаюць, што няма бога і інш.).

Піонэры-ж у сваю чаргу сталі залучаць неорганізаваных дзяцей у сваю організацыю. Для гэтага яны пачалі наладжваць вечары, у якіх прымалі ўдзел і неорганізаваныя, запрашалі іх на сходы і заняткі і гэтым самым пачалі ўцягваць іх у атрад. І за 2 гады працы Капыльская організацыя *вырасла з 8-мі чалавек у 4 атрады.*

### Грамадзкая праца.

Некалькі зьвеньняў было прымацавана к сельсавету. Піонэры разносілі акладныя лісты, позвы на суды і інш. І гэтым самым замянілі працу старшыні і сакратара.

Некаторыя піонэры ўваходзяць у члены МОПР-у, Асоавіахіму і інш. Пры ячэйцы Нардому быў організаваны атрад № 40, які даглядаў за парадкамі ў хаце-чытальні.

### Дапамога бяспрытульным.

Па ініцыятыве піонэраў, а гэтак сама і іх дапамозе было сабрана для бяспрытульнага хлопчыка, Мішкі—18 руб. За іх пашылі апошняму пальто і купілі валёнкі. Калі быў тыдзень дапамогі бяспрытульным, то піонэры ўсе, як адзін, далі грошы для гэтае справы.

### Праца ў школе.

Усе піонэры нашага атрада вучацца. Яны прымаюць актыўны ўдзел у самакіраваньні школы, а таксама ў прыбіраньні клясаў. Амаль усе піонэры пераходзяць з клясы ў клясу,—вучацца добра.

Летась усе піонэры прымалі ўдзел у розных гурткох: пераплётным, драматычным, харавым і інш.

### Розныя гурткі.

Рада кіраўнікоў зьвеньняў ухваліла зорганізаваць наступныя гурткі: стралковы, мадэляў і катаньня на лодцы; збор атраду гэтак сама зацьвердзіў гэту прапанову, але гурткі пакуль што ня існуюць.

### Сельгаспадарка.

На гэтую тэму было праведзена шмат гутарак як кіраўнікам атрада, так і па зьвеньнях. Тэорэтычна працавалі шмат, але практычна зусім не працавалі. Бо ня было дзе паказаць свае веды. Асобна піонэры дома рабілі вопыты над некаторымі культурамі.

### Праца сярод бацькоў.

Тут піонэры шмат чаго зрабілі. Яны часта наладжвалі вечары, на якія заклікаліся бацькі піонэраў. На вечарох ставіліся даклады, песьні, гульні і інш. Бацькі былі гэтымі вечарамі вельмі задаволены.

### Праца сярод акцябратаў.

Пры нашым атрадзе ёсьць група акцябрат, у якой маецца 45 чалавек. Кіруюць ёю піонэры-комсамольцы, а гэтак сама

і некаторыя старэйшыя піонэры. Асаблівых посьпехаў у працы сярод акцябрат мы яшчэ ня маем.

**Насьценная газэта.**

Узімку нашым атрадам выпускалася насьценгазэта „Піонэрскі Сьветач". Але на лета—за тым што ня было клюбу—яна была ліквідавана. Цяпер, знайшоўшы клюб, газэта будзе выдавацца зноў.

**Шэфства над вясковымі атрадамі.**

Наш атрад узяў шэфства над вясковым атрадам в. Рым'е і наладзіў там добра працу, пасьля чаго наш атрад узяў шэфства над атрадам в. Старая Кель, дзе гэтак сама было пастаўлена некалькі вечароў і дакладаў.

У далейшай працы трэба будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на наступнае: „Аб ахове карысных птушак" і „Аб ахове лясоў".

З недахопаў можна ўказаць на наступнае: няма свайго клюбу, мала выпісваецца газэт, не выпушчаецца яшчэ насьценгазэта. Усе гэтыя недахопы трэба зьнішчыць.

**П. Ш-ч.**

## Чаму нашы піонэры ня ідуць на сходы.

*(Гор. Клімавічы, атрад пры яч. „Гарбароў").*

Да гэтага часу Савет нашага атраду лічыў, што ня ўсе піонэры добра наведваюць атрад таму, што некаторыя бацькі ня пускаюць сваіх дзяцей к нам у атрад. У гэтым наш атрад парашыў добра ўпэўніцца.

Праз некаторы час мы добра падрыхтаваліся к бацькаўскаму вечару, куды запрасілі ўсіх бацькоў. На гэтым вечары мы дакладна растлумачылі нашым бацьком, што мы робім у атрадзе, якую карысьць дае дзецям атрад.

На гэтым-жа вечары адзін з бацькоў выступіў і сказаў:

«...Мы самі пасылаем нашых дзяцей у атрад і хочам, каб яны там выхоўваліся ў добрым напрамку».

Пасьля ўжо мы даведаліся, што піонэры, замест таго, каб хадзіць у атрад, бегаюць па вуліцах. Вось чаму ня ўсе піонэры нашага атраду наведваюць сходы.

**Н. Б.**

## Наш вопыт у галіне ваенізацыі.

*(Менск, атрад № 16 пры 1-ай дзяржаўнай друкарні).*

К ліку атрадаў, якія распачалі вайсковую працу стала, адносіцца атрад 1-ай дзярждрукарні. Думка гэта зарадзілася і пачала праводзіцца ў жыцьцё яшчэ з вясны гэтага году. Атрад зьвязаўся з 7-ай ротай 6-га стралковага палка, які знаходзіцца ў г. Менску. Піонэры вельмі зацікавіліся вайсковай справай і шчыра пачалі вывучаць яе. Чырвонаармейцы ў сваю чаргу таксама зацікавіліся піанэрскай працай, вылучылі свайго прадстаўніка ў атрад, які акуратна наведвае зборы і савет.

Вось прыклад сумеснай працы атраду з ротай. Нядаўна, калі рота была ў лягеры, быў у іх наладжаны вечар; піонэры ўсе, як адзін, не паленаваліся пайсьці за 5 вёрст у чырвонаарм. лягер за горад, каб правесьці сумесна вечар. Чырвонаармейцы былі бяз меры рады іх прыходу. Піонэры наладзілі спортвыступленьне і позна ўночы, здаволеныя, вярнуліся дамоў. Акрамя гэтага, у атрадзе чырвонаармейскімі камандзірамі праводзілася шмат гутарак па зьвеньнях і на зборы аб вайсковай справе, аб хэміі ў вайне і інш.

Самыя лепшыя ўспаміны ў піонэраў засталіся аб праведзеным часе ў лягеры сумесна з чырвонаармейцамі. Папершае, чырвонаармейцы памаглі арганізаваць лягер. Кожны дзень к піонэрам прыходзілі яны і рабілі сумесныя вечары, праводзілі гутаркі і інш. А потым і стральбу арганізавалі, што надзвычайна зацікавіла піонэраў. Лягер яшчэ больш замацаваў справу па ваенізацыі і сувязі з Чырвонай арміяй. Цяпер атрад гэту працу не запусьціў, а ўсё больш пашырае. Хто чым, а друкары ваенізацыяй і сувязьзю з Чырвонай арміяй пахваліцца могуць.

**А. Кучар.**

# Новае ў нашай працы.

## (Гор. Нова-Барысаў, 52 атрад).

Сумна на сходзе атраду, гутаркі адны вечна, і больш нічога, —так гаварылі нашы піонэры.

Каб выйсьці з такога цяжкага і дрэннага становішча, на падмогу прышлі самі піонэры.

На адным з сходаў піонэры пастанавілі праводзіць наступнае:

1) шашачны турнір;

2) гульні ў шашкі і ў шахматы пасьля сходу;

3) экскурсіі, прагулкі;

4) зьвеньнявыя вечары ў хаце піонэра і

5) гутаркі—шляхам пытаньняў і адказаў.

Усе гэтыя пункты мы правялі ў жыцьцё.

Вечар зьвяна. Мэта такога вечару—ажывіць і разьвесяліць заняткі зьвяна. Вечар наладжваецца ў піонэраў па хатах,—наладжвае кожнае зьвяно. На вечары ставяцца пытаньні аб працы зьвяна, як палепшыць яе. Праводзяцца гульні, частушкі, дэклямацыі і шмат іншага вясёлага, хто што прыдумае. Гэта вельмі цікава для ўсіх. Многа прысутнічае на гэтых вечарох і няпіонэраў.

Гутаркі шляхам пытаньняў і адказаў уцягваюць у працу ўсіх прысутных.

Цяпер піонэр, ідучы на сход, ужо ведае, што прыдзецца трохі «памазгаваць» там. І сапраўды, такі сход атраду прымае больш жывы і вясёлы характар.

**А. Фрумкіс.**




Гэтая маленькая жывёлінка за межамі мае вялікае значэньне: іх мяса вывозяць на рынкі і прадаюць нараўне з сьвінінай, баранінай і іншым. Гэта відаць з таго, што бадай усё сялянства, якое мае кавалак свае зямлі, разводзіць гэтых самых трусоў. Ды наогул трэба адзначыць, што трус мае вялікую вартасьць, мяса яго надта смачнае, сакавітае, надта хутка пераварваецца нават хворым жыватом.

Скуркі таксама ў гаспадарцы знойдуць сваё месца. Між іншым, трус жывіцца ўсякімі атрускамі ад чалавечай яды. Дык чаму-б нам, піонэрам, іх не разводзіць, хіба-ж мы ня зможам карыстацца гэтай выгоднай справай.

Тут я пастараюся разгледзець тры самыя галоўныя пытаньні, якія неабходна ведаць кожнаму, хто мае трусоў і хто думае іх разводзіць.

**Памяшканьнем** для трусоў можа зьяўляцца звычайны сялянскі хлеў. Тут яны ўжо, вядома, самі, бяз ніякага догляду жывуць і размнажаюцца. Але такое памяшканьне ня зусім то добрае; трусы мала знаходзяцца з людзьмі і ў выніку—дзічаюць, робяцца малымі. Лепей за ўсё трымаць іх у звычайнай скрынцы, якую можна дастаць у любым магазыне ці коопэратыве, даўжынёю 90 сантым. ушыркі і ўвышкі см. 70. Замест гатовае дзіркі, якая ёсьць у скрыні, трэба прырабіць дзьверцы, праз якія будзе праходзіць сьвет, а таксама і паветра. На дне скрынкі трэба пракруціць дзірку для спаду мачы, бо, як вядома, трусы баяцца вільгаці.

**Карміць** трусікаў надта лёгка: ядуць яны траву як сырую, таксама і сухую, ядуць усякую збажыну, атрускі ад чалавечай яды. Толькі пры кармленьні неабходна запомніць: усякую яду трэба класьці ў якую-небудзь пасудзіну, бо пасьля таго, як трусы нагамі патопчуць яе—перастаюць больш есьці і астаюцца галоднымі. Карміць трэба тры разы ў дзень: раніцаю, у абед і ўвечары, але трэба адзначыць, што трусік, як і ўсякае дзікае стварэньне, днём сядзіць, а ўначы, наадварот, таму нанач трэба класьці больш яды. Трэба старацца даваць яду больш сухую, бо ўжо, як я сказаў—мокрага, вільготнага яны не ўважаюць.

**Піонэр-любіцель.**

# Піонэру аб Кастрычніку[1]).

## Пад грукат гармат нараджаецца новая Расія[2]).

Масыўны фасад Смольнага гарэў агнямі, калі мы падыходзілі да яго, і туды з кожнай вуліцы плыў струмень, ледзь адрозьніваемых адзін ад другога ў змроку людзей.

Аўтомобілі, мотоцыклеты рухаліся ўзад і ўперад. Агромністы шэры бранявік з двума чырвонымі сьцягамі на маленькіх вежах выпаўз адтуль, бесьперапынку даючы гудок.

Было холадна, і чырвонагвардзейцы ля варот расклалі агонь. Ля другіх варот таксама гарэў агонь, пры сьвеце якога вартаўнікі павольна разьбіралі нашы прапускі і разглядалі нас з галавы да пятак.

Бразэнтавыя накрыўкі былі зьняты з чатырох кулямётаў, знаходзячыхся ля кожнага ўваходу. Доўгімі палосамі віселі стужкі з патронамі. Шмат бранявікоў стаяла пад дрэвамі саду, напаўняючы паветра гулам маторау. Доўгія, абголеныя, цьмяна асьветленыя пакоі грукацелі ад тысячы галасоў, ад заклікаў, ад выкрыкаў натоўпу, які спускаўся хутка на ступеньках—рабочыя ў доўгіх кашулях і круглых зімовых шапках—многія з стрэльбамі за плячыма; салдаты ў вялікіх бруднага колеру сьвітках і шэрых зімовых шапках, некалькі правадыроў... Луначарскі, Каменеў,—асяродак якойсьці групы. Усе гаварылі разам.

Гэта скончылася надзвычайнае пасяджэньне Петраградзкага Савету.

На трыбуне зьявіўся Ленін, вітаемы ўзрывам незамаўкаемых воплескаў, прадсказваючы сусьветную социяльную рэволюцыю, а Зіноўеў заклікаў:

— У гэты дзень мы заплацілі наш доўг міжнароднаму пролетарыяту, прынёсшы страшэнны падрыў вайне, страшэнны падрыў усім імпэрыялістым і ў асаблівасьці Вільгэльму-кату... Петраградзкі пролетарыят—за Кастрычнік! У другім месцы, у Таўрычаскім палацы, нараджалася Ўсерасійская ўлада рабочых.

...Мы ўвайшлі ў вялікую залю пасяджэньняў, чуць прабраўшыся ля дзьвярэй, дзе быў шумлівы натоўп народу.

Уся заля была цесна набіта прадстаўнікамі рабочых і салдат усёй Расіі, усе чакалі ў напружаным маўчаньні званка старшыні.



*У дні Кастрычніка. Бранявік бальшавікоў у Смольнага дварца (Ленінград).*

Заля не атаплівалася, але паветра было прыдушліва-гарачае ад вагромністай масы прысутных. Няпрыемны шэры дым ад цыгарак вісеў у сьціснутым душным паветры.

Час-ад-часу хто-небудзь з кіраўнікоў ухсодзіў на трыбуну і прасіў таварышоў ня курыць.

Дан[3]), чалавек з нязвычайна сумным выразам твару — лысаватая фігура ў няпрыгожай форме вайсковага ўрача —зазьвінеў у званочак.

Нечакана наступіла маўчаньне, напружанасьць, парушаемая толькі лаянкаю і сваркай людзей, якія зьмясьціліся бліз дзьвярэй.

— Улада ў нашых руках, — сумна сказаў

[1]) Гл. „ЛП“ № 18.

[2]) Па кнізе Дж. Рыда—„10 дней, которые потрясли весь мир“.

[3]) Меншавік.

ён, застанавіўся на момант і затым ціха працягваў.—Таварышы, Зьезд Саветаў адчыняецца пры нязвычайных абставінах і ў такі выключны момант, што вы зразумееце, чаму ЦВК лічыць неабходным зьвярнуцца к вам з палітычнай прамовай. Гэта стане ясным для вас, калі вы прыпамятуеце, што ў гэты самы момант нашы таварышы знаходзяцца ў Зімнім палацы пад бамбардыроўкай, не шкадуючы сябе, выконваючы доўг, узложаны на іх ЦВК (нявызначаны шум).

Я апавяшчаю пасяджэньне першага Зьезду Саветаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў адчыненым.

Абралі прэзыдыум: 14 бальшавікоў, 7 эсэраў, 3 меншавікі і 1 інтэрнацыяналісты.

Стары ЦВК сышоў з трыбуны і месца яго занялі Каменеў, Луначарскі, Калантай, Троцкі і Ногін... Уся заля паднялася пад гукі воплескаў.

— На чарзе дню,—сказаў Каменеў: 1) арганізацыя ўлады, 2) вайна і мір, 3) скліканьне ўстаноўчага сходу.

Раптоўна пачуўся новы шум, болей глыбокі, чым шум натоўпу, упарты, несупакойлівы.

Публіка ўсхвалявалася, глянула ў бок вакон і на сходзе ўтварылася трывожнасьць.

А ўвесь час гучнеў і гучнеў заглушаны гул гармат, і дэлегаты перакідваліся трывожнымі словамі...

Так, з трэскам артылерыйскіх стрэлаў у паветры шалёнай сьмеласьці нараджалася новая Расія.

## Ленін гаварыў...

...А затым выступіў Ленін... Моцна трымаючыся за край стала і сваімі невялікімі вачыма аглядваючы натоўп, ён стаяў у чаканьні, не зьвяртаючы, відаць, увагі на няспынныя воплескі. Калі воплескі скончыліся, ён проста сказаў:

— Мы цяпер прыступаем да будаўніцтва соцыялістычнага парадку. І гэты сказ ізноў спаткаў прывітаньне ўсіх прысутных.

— У першую чаргу павінны быць прыняты тэрміновыя меры па заключэньню міру... Мы павінны прапанаваць народам усіх ваюючых краін, на аснове савецкіх умоў—без анэксіі, без контрыбуцыі [1]), з правам самавызначэньня народаў. У той-жа самы час, згодна нашым абяцаньням, мы павінны апублікаваць і адмовіцца захоўваць таемныя дагаворы. Пытаньне аб вайне і міру так ясна, што, я лічу, можна без далейшых прамоў прачытаць проект праклямацыі к народам усіх ваюючых краін.

[1]) Без захопаў чужых земляў і выплаты пераможцам грошай—дані.

Яго вялікі рот, які паказваўся ўсьміхаўшымся, шырока адчыняўся, калі ён гаварыў. У яго голасе была сіпласьць, — не няпрыемная, але як быццам гэта ад многагадовай аратар-



*У дні Кастрычніка. Ахова ўваходу ў Смольны.*

скай практыкі,—і ён зьвінеў так роўна, што стваралася ўражаньне, быццам ён мог зьвінець без канца. Каб падкрэсьліць сказ, ён зьлёгка нахіліўся наперад.

А перад ім, зьвернутыя да яго, тысячы простых абліччаў глядзелі ўверх з любоўю і павагай.

Адозва да народаў і ўрадаў усіх ваюючых краін была прачытана.

Было роўна 20 хвілін 11-га, калі Каменеў прапанаваў усім выказваючымся за адозву падняць свае карткі. Адзін з дэлегатаў быў падняў сваю руку супроць, але нечакана рэзкі ўзрыў абурэньня навокал яго прымусіў і яго хутка апусьціць руку.

## Прынята аднагалосна.

Нечакана мы ўсе апынуліся на нагах, падхваціўшы ўсе гуртам бадзёрыя гукі Інтэрнацыяналу. Сівы стары салдат плакаў, як дзіця. Аляксандра Калантай хутка маргала вачыма, каб не расплакацца. Бадзёрыя гукі расплываліся па залі, вырываючыся скрозь вокны і дзьверы і ўздымаючыся да высокага неба.

— Вайна скончана,—сказаў малады рабочы, які стаяў поруч са мною з прасьвятлеўшым тварам.

І калі Інтэрнацыянал скончыўся, у той час, як мы стаялі тут у вялоўкім маўчаньні, хтосьці пракрычаў ззаду пакою:

— Таварышы, успамянеце тут тых, хто загінуў за свабоду.

І мы пачалі пець хаўтурны марш — гэту працяжную мэлянхолічную і ўсё-ж пераможную песьню, сапраўды расійскую па духу, і захапляючую.



*У дні Кастрычніка. Матрос і рабочы.*

## Што даў Кастрычнік.

Адразу пасьля заўладаньня дзяржаўнай уладай, паўстаўшыя рабочыя і сяляне праз Савет Народных Камісараў выдалі дэкрэт аб міры, аб зямлі, аб кантролю рабочых над вытворчасьцю, аб пераходзе ўсіх банкаў ва ўласнасьць дзяржавы. У пачатку 1918 г. была выдана «дэклярацыя (урачыстае паведамленьне) правоў працоўнага і эксплёатуемага народу». Гэтай «дэклярацыяй» канчаткова замацавалася ў Расіі Савецкая ўлада—улада Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў; абвяшчалася свабода для ўсіх народаў і права кожнай нацыі будаваць свой лёс, як пажадаюць працоўныя; поўная адмена ўласнасьці на зямлю; дэкрэтавалася (законам пастанаўлялася) узброеньне ўсіх працоўных і стварэньне Чырвонай арміі рабочых і сялян; анулявалiся (зьнішчаліся) усе пазыкі, заключаныя царом і памешчыкамі, і абвяшчаўся канец праступнай вайне, задуманай абшарнікамі з буржуазіяй.

## С С С Р.

Дзесяць год таму назад, у шэрыя Кастрычнікаўскія дні, расійская рабочая кляса ўзяла ў свае рукі ўладу на барыкадах Піцера і Масквы.

Генэралы і архіерэі, цукразаводчыкі, банкіры, афіцэры і распусная моладзь—усе спадзяваліся, што не надоўга хваціць моцы ў чорных людзей, ідучых пад чырвонымі сьцягамі. Але вось прайшло ўжо 10 гадоў. Скураныя сьвіткі і замурзаныя кашулі кіруюць вялічэзнай краінай, і ўладарству іх ня відаць канца. А былыя ўладары старых шляхецкіх маёнткаў, графы і князі, купцы, фабрыканты, людзі ў мундзірах, лентах і эполетах жабруюць сабе па задворках Эўропы. Яны спрабавалі ня раз, ня два парваць рабоча-сялянскі фронт.

Ня раз і ня два рабілі яны свае набегі на Савецкую краіну. Але, сьціскаючы свае сілы ў сталёвы кулак, моцна трымаўся рабоча-сялянскі фронт, і кожны раз меч пролетарскай дыктатуры [1]) з сталёвай сілай апускаўся на галавы клясавых ворагаў.

Рабочая кляса, узяўшы ўладу, перажыла ўсе мукі, якія толькі прыпадаліся на яе долю.

Яна прайшла з перамогай скрозь шэрагі

[1]) Дыктатура—неабмяжованая ўлада.

інтэрвэнцый[1]) і блёкадаў[2]) загавораў і здрад; яна разьбіла сваіх ворагаў на ўсіх франтох; разьбітую Расію яна сабрала ў вялікі хаўрус працоўных, склала яе па частках, адваявала яе ў розных гвалтаўнікоў. Яна перажыла незабываемыя мукі і беднасьці і голаду і, перакідаючыся мёрзлай гнілой бульбай, не стамлялася трымаць вінтоўку ў сваёй моцнай і сьмелай руцэ. Яе басаногая Чырвоная армія ліквідавала грамадзянскую вайну, і Чырвоная Зорка зазьзяла на ўвесь сьвет сваім пераможным бляскам. Пад націскам ворагаў яна, робячы тысячы памылак і выпраўляючы гэтыя памылкі, наладжвала гаспадарку, адбудоўвала краіну, добра прыглядваючыся к таму, каб не парвалася сувязь паміж пролетарыем і селянінам, каб ня даў шчыліны хаўрус рабочых і сялян.

Мы прайшлі ўжо паласу самых цяжкіх няшчасьцяў. Але мы знаем: на нас, быць можа, спадуць новыя цяжкасьці. Наш саюз не баіцца гэтага. Рабочая кляса йшла ў Кастрычнікаўскія дні пад сьцягам міжнароднай рэволюцыі. Гэтаму сьцягу яна ня здрадзіць ніколі. Бо наша рабочая кляса—вялікая гэроічная сіла, кляса, сэрца якой б'ецца разам з акрываўленым сэрцам эўропэйскага пролетарыяту («Правда»).



*У дні Кастрычніка. Атака зімовага дварца рэволюцыйнымі войскамі (Ленінград).*

[1]) Інтэрвэнцыя—замежнае ўмяшацельства.

[2]) Блёкада—абкружэньне, кола, праз якое цяжка прарвацца.

## Піонэр верны справе рабочай клясы.

Піонэр—верны справе рабочай клясы. І ў тых баёх, якія прадстаяць рабочай клясе, піонэр будзе верным яе памоцнікам.

Працуючы зараз павольна, не сьпяшаючыся, робячы маленькую справу, зьвязваючы сваю працу з вялікімі задачамі, якія стаяць перад рабочай клясай, піонэр будзе першым на грамадзянскай працы. Сярод бяспрытульных, у МОПР'ы, дапамагаючы Чырвонай арміі, зьвязваючы сваю працу з вясковымі дзяцьмі—піонэр будзе дастойным пакаленьнем Кастрычніка. У Кастрычніку была ўзята ўлада, расчышчана поле. І ў будучай будоўлі нашага Саюзу і працоўнага хаўрусу рабочых і сялян усяго сьвету—многа чырвоных кірпічоў будзе закладзена нашымі піонэрамі, нашай юнацкай зьменай.

**Далінскі.**

## Раім чытаць кніжкі да Кастрычніка

### На беларускай мове:

1) Кастрычнікавая рэволюцыя ў атрадзе і школе—**А. Якімовіч** і **П. Хэйфец**. 2) Ліст Ільлічу—**Замойскі**. 3) Як дзеці комуну рабілі—**Біглец**. 4) Шахта «Дзядзька Том»—**Кельлерман**. 5) Гул Бубна—**А. Якімовіч**. 6) Комсамольскі сьпеўнік.

### На расійскай мове:

1) «Осада дворца»—**Каверин**, ц. 40 коп. 2) «Как пало царское самодержавие»—**Гай** и **Эдилаев**. Мол. Гвард., ц. 22 к. 3) «Октябрь». (Зборнік для дзяцей і юнацтва)—**Водолащенко** и **Язерский**. 4) «Девять дней, которые потрясли мир»—**Джон Рида**, ц. 90 коп. (Для дзяцей старэйшага ўзросту).

# Прыгоды „Пятрушкі“

## (Інсцэніроўка)

„Пятрушка“—вельмі цікавае і вясёлае народнае прадстаўленьне, якое калісьці зьбірала вялікую колькасьць гледачоў, дарослых і асабліва дзяцей. Дзецям заўсёды хацелася паглядзець на сьмелага забаўніка і яго прыгоды. Раней „Пятрушка“ прадстаўляў вельмі сьмешныя сцэнкі, якія мелі мала зьместу: біўся з гарадавым і цыганом, аб'яджаў коняй і г. д. Цяпер, пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, новая, жывая кроў улілася ў форму „пятрушачных“ прадстаўленьняў. Лялькі „Пятрушкі“ з цыгана, дворніка, доктара і г. д. перайшлі ў буржуя, лёрда, чырвонаармейца, рабочага, піонэра. „Пятрушка“ пачаў абслугоўваць усе тэмы міжнароднага становішча і іншага жыцьця-быцьця. Пагэтаму, ведаючы, які посьпех заўсёды меў і будзе мець „Пятрушка“ сярод дзяцей, мы хочам параіць піонэрам гэта забаўнае і цікавае прадстаўленьне, даручыўшы „Пятрушку“ разгарнуць вельмі важную і сур'ёзную тэму аб грамадзянскай вайне і мірным будаўніцтве.

„Пятрушачнае“ прадстаўленьне праводзіцца так: папершае, для яго патрэбна вялікая шырма, за якой хаваўся-б адзін, а іншы раз і двое-трое „пятрушачнікаў“, якія кіруюць рухам ляляк і гавораць за іх. Падругое, патрэбны самыя лялькі. Робяцца яны так: з гліны, гіпсу або з тоўстага папяровага картону. Усе гэтыя фігуркі можна адпаведна расфарбаваць. У галаве фігуркі зьнізу павінна быць дзірачка, каб прасунуць туды палец. Адзежа для іх шыецца з розных кавалкаў матэрыі, прычым яны маюць выгляд балахончыкаў з трыма падоўжанымі адросткамі: два для рук, а адзін для шыі, на які і надзяваецца галоўка. Той, хто прымае ўдзел, надзявае на кожную руку па ляльцы; паказальны палец узьдзяе ў шыю лялькі, а пасьля зьверху надзяе на яго галаву. Вялікі і мезены палец ўзьдзяваюцца ў ручкі—рукавы. Ясна, што болей двух лялек адзін „пятрушачнік“ ня можа надзець. Калі прымаюць удзел 3 або 4 лялькі адразу, тады прымае ўдзел другі „пятрушачнік“. Махаючы пальцамі і пераносячы руку то направа, то налева, то ўверх, то ўніз, ён прымушае лялек хадзіць, плакаць, змагацца, цалавацца і г. д. Калі „пятрушачнік“ гаворыць за сваіх лялек, ён зьмяняе голас. Урэшце, для прадстаўленьня патрабуюцца некаторыя іншыя прадметы: вінтовачка, мятла, мяшочак і г. д., зробленыя з дошчачак, анучак розных і інш. Прадстаўленьне праводзіцца з музыкай. Музыкант, іграючы на раялі, зьяўляецца ў той-жа час і артыстым. Памятайце, што да прадстаўленьня гэтага трэба добра падрыхтавацца. Зьмест можна і ня вывучваць напамяць,—для гэтага за шырмай будзе знаходзіцца сшытак. Паглядзіш у яго—і іграй. Публіцы ня відаць будзе.

„Пятрушачнае“ прадстаўленьне, бязумоўна, ня дасьць нам дакладна ўсяго таго, што ў сапраўднасьці было. Ня трэба забывацца, што ўсё гэта толькі тэатр лялек, дзе галоўную ўвагу аддаюць гульні, вершам, падзеям, у якіх адбіваюцца сапраўдныя падзеі толькі ўмоўна.

Трэба яшчэ раз сказаць, што фігура „Пятрусяпіонэра“—гэта сам „Пятрушка“, а не сапраўдны піонэр. Зразумела, яго можна было так і назваць „Пятрушка“, бо піонэраў у часе грамадзянскай вайны, зразумела, ня было. Але мы памятаем шмат такіх выпадкаў і апавяданьняў у піонэрскай літаратуры, што дзеці піонэрскага ўзросту бралі падчас самы гарачы і гэроічны ўдзел у грамадзянскай вайне. Вось чаму мы і ўвялі „Пятрушку“, як „Пятруся-піонэра“. К канцу прадстаўленьня ён ужо якбы „падрастае“, становіцца зьменаю.

### Пачатак прадстаўленьня.

*Музыка грае марш-парад. Над краем шырмы паказваюцца спачатку маленькія ручкі.*

**Пятрусь-піонэр** (*за шырмай*).

Ну, ну, хутчэй, дайце паглядзець на дзяцей!

**Голас „пятрушачнікаў“.**

Пачакай, Пятрусь, мы цябе яшчэ не адзелі.

Як-жа ты вылезеш без піонэрскага гальштука?

**Пятрусь-піонэр** (*уздыхаючы за шырмай*).

Праўда, бяз гальштука нязручна. Ну, ну, хутчэй!

**Голас.**

Зараз, зараз! Гатова! (*Крык Пятруся „ура!“*).

**Пятрусь-піонэр** (*зьяўляючыся над шырмай*).

Добры дзень, дзеці і дзеткі,
Янкі, Манькі і Альжбеткі,
Добры дзень ўвесь піонэратрад!
Вельмі (*кланяецца*), вельмі рад.
(*Прыхарошваецца*).
Вось бачу дзесяцёхгадову дату. (*Паказвае на адзін з плякатаў*).
Бачу лёзунгі і плякаты,
Усюды прыгожа вісяць яны,
Віншую вас з Кастрычнікам дзесятым,
А ну, адкажэце мне сотняй ратоў—
Будзь гатоў! (*Падымае руку*).

**Галасы з залі.**

Заўжды гатоў!

**Піонэр-Пятрусь.**

Ура! Ура! Бачу з першага разу—
Малайцы таварышы вашага атраду.
(*Да музыкаў*).
Гэй, музыка дарагі,
Сыграй піонэрскі гімн. (*Музыка йграе*).
Зараз, зараз, любяткі,

Глядзіце толькі без заглядкі.
Пакажу вам за дзесяць год я
Гісторыю перамогаў і гісторыю прыгодаў.
Зразумела, дзеткі, гэтыя гады сур'ёзныя,
Вялікія і грозныя.
І мне аб іх сьпяваць не па плячу,
Але ўсё-ж такі я хачу
Удзел самому ў сьвеце прыняць,
Дарэмна тут не стаяць ды вачыма не маргаць.
Цяпер жарты ў зубы, прыгаворы ў рот,
Пачну весяліць піонэрскі народ.
Я, таварышы, ваш заўсёды нязьменны,
Зараз адчыняю сцэну. (*Выбягае*).

**Голас з-за шырмы.**

Чаго ты штурхаешся, баба ты дзеравенская. (*Вылазіць Аляксандра Керанская*).

— Я Аляскандра Фёдараўна Керэнская, (*кланяецца*).
Бальшавікі-зладзеі, я іх усіх палажу!
Калі ласка, да мяне, ягамосьць буржуй!

**Бужуй.**

(*Вылазіць буржуй, выцірае твар хустачкай.*)

Сядзець тут ня вельмі рад,
Хачу назад! (*Керанскі яго трымае*).

**Керанскі.**

Калі ласка, ня бойцеся, гэта толькі дзеці.

**Буржуй.**

Дзеці то дзеці, але я ў іх на прыкмеце.
Гэтыя, бачыце, дзеці
З мяне гатовы скуру зьдзерці. (*Хоча зноў лезьці назад*).

**Керанскі.**

Нічога, стойце моцна. З панамі разам
Мы ўсіх пераб'ём іх адразу,
Пакажам ім, як бунтаваць! (*Крычыць*).
Усім, усім, усім! Ідзеце ваяваць!
Зямля паном, фабрыкі капіталістым,
Бізун працоўным і справа чыста.

**Буржуй.**

Давайце бальшавікоў пахаваць!
Божа, цара захавай!
Ура, ура, ура! Жыцьцё за цара!

**Керанскі.**

Што вы крычыце на ўсю публіку:
У нас усё такі рэспубліка!
Я ўжо гатоў біць бальшавікоў. (*Зьяўляюцца рабочы і матрос са стрэльбамі*.

**Рабочы.**

Рукі ўверх!

**Буржуй.**

Ратуйце, бальшавікі!

**Керанскі.**

Я—галоўкаверх. (*Вымае пугач*).

**Буржуй.**

Здаюся, здаюся, на жывот лягу.

**Рабочы.**

Пайшоў у замежны лягер! (*Матрос вядзе буржуя*).

Улада саветам, фабрыкі рабочым, зямля сялянам, мір народам. (*Вымае чырвоны сьцяг*).

**Селянін** (*зьяўляючыся*).

Няхай жыве змычка працы!

**Рабочы.**

Ідзі сюды. Далоў палацы. (*Селянін набліжаецца*).

Разам напярод!

**Селянін.**

Разам ў бой!

**Пятрусь-піонэр** (*зьяўляючыся*).

Вось і я з піонэрскай трубой.
Бачыў Керанскага: уцякаў, як гад, ён.

**У с е.**

Няхай жыве рабоча-сялянская ўлада!

**Рабочы.**

Трымай вінтоўку, дружа!
Ня здолее з ёю ліхая нас сьцюжа.
(*Дае селяніну вінтоўку*).

**Селянін.**

Хоць супроць цэлага сьвету
Абаронім краіну саветаў! (*Хаваецца*).

**Піноэр-Пятрусь** (*дзьме ў трубу*).

Тру-ру-ру

**Буржуй** (*вохае за шырмай*).

Вой памру, вой памру! (*Лезе за шырму*).

**Пятрусь-піонэр.**

Паслухаю, што буржуй будзе апавядаць. (*Хаваецца, пакідаючы зьверху толькі частку галавы*).

**Буржуй.**

Разьбілі мяне ў пух і прах,
Нагналі на мяне гора і страх,
Адабралі ўсе фальваркі,
Далі мне і па карку (*трасе кулаком*).
Пачакай, пакажу ім сваю сілу,
Заганю іх, чарцей, у магілу (*крычыць*).
Каб іх чорт пабраў (*кліча*).
Эй, адмірал! (*Вылазіць Калчак*).

**Калчак** (*выскаквае*).

Што прыкажа ваша мосьць?

**Буржуй** (*абнімаецца з Калчаком*).

Здароў, здароў, мілы мой,
Давай абнімемся, мой дарагі,
Ды пагутарым, як нам пазбавіцца тугі.
(*Шэпча на вуха адміралу*).

**Пятрусь-піонэр.**

Змова, змова, пайду раскажу. (*Выбягае*).

**Буржуй** (*Калчаку*).

Вось табе грошай кучу (*дае генэралу мяшочак*).
Пачынай бучу.
Бі іх, гані ад улады вон—
Пасаджу тады цябе на трон.

**Калчак.**

Буду сядзець на троне ў залатой кароне,
Вешаць мужыкоў і рабочых,
Выколваць ім вочы. (*Буржуй кланяецца*).
Аднак, з аднаго мяне воін ня дужа вялікі...

**Буржуй** (*б'ючы яго па плячу*).

На дапамогу будзе Дзянікін.
Я хвіліначку ў сябе пазычу
І яго паклічу. (*Хаваецца*).
(*Крычыць па-за сцэнай*).
Ваша сьветласьць, ня млейце!

**Калчак.**

Тут толькі дзеці,
Чаго-ж мне са страху ўцякаць.
Мне Расіяй толькі ўладаць.
Іду ў паход. (*Музыка—„сабачы вальс“. Калчак абходзіць шырму, прыкладвае руку да казырка, як на парадзе*).

**Пятрусь-піонэр** (*зьнізу*).

Вось ён, вось! (*Выбягаюць чырвонаармеец з вінтоўкай і Пятрусь-піонэр з трубою*).

**Калчак.**

Хто спыніў маю слаўную перамогу?

**Чырвонаармеец** (*наступаючы*).

Я табе пакажу тваю дарогу!

**Калчак** (*з шабляй*).

Здавайся або памірай (*замахваецца*).

**Чырвонаармеец** (*бьючы яго*).

Вось табе!

**Калчак.**

Ай, ай, ай! (*Кідае шаблю, хапае пісталет*).
Цяпер ад кулі памерці мусіш!

**Чырвонаармеец.**

Ну, брат, хлусіш! (*Б'юцца*).

**Пятрусь-піонэр** (*заглядваючы за шырму*).

Таварыш, таварыш, там яшчэ генэрал...

**Калчак.**

Ура! Дзянікін!

**Дзянікін** (*выскаквае*)

Ня туды, брат, пайшло. (*Калчак яго падцягвае*).

**Абодва.**

Бі бальшавікоў! (*Кідаюцца на чырвонаармейца*).

**Пятрусь-піонэр.**

Пачакай-жа, мы вам пакажам паноў! (*Бяжыць на дапамогу чырвонаармейцу*).
Трымай!

**Дзянікін.**

За сьвятую Русь. (*Чырвонаармеец б'е Калчака, той кладзецца на краю шырмы*).

**Калчак** (*паміраючы*)

Паміраю, памажэце!

**Пятрусь-піонэр** (*б'ючыся з Дзянікіным*).

Вось моцна-гаварыцель,
Вось табе і генэрал белы.

**Чырвонаармеец.**

А яшчэ выступае як сьмела!

**Пятрусь.**

Глядзеце дзеці...

**Дзянікін.**

Прыдзецца з сораму згарэць мне.
Прапала мая галава вяльможная.
Бальшавікі—неперноможны! (*Уцякае, кідаючы шаблю*).

**Чырвонаармеец.**

Цяпер можна і прысесьці...
Ці няма ў цябе, брат, чаго паесьці?

**Піонэр** (*сумна*).

Нічога сам тры дні ня меў.

**Чырвонаармеец.**

Эх, ты бедны мой, і ты ня еў.
Голад ня цётка і холад ня цётка,
Бачыш, на нагах рваныя абвёрткі,
Шынелі няма, боты на дзірках. (*Капаецца ў кішэні*).
Вось табе, Пятрок, скарынка.
Я прывык ужо да такой манеры (*падцягвае тужэй папругу*),
А табе вось будзе і вячэра.

**Пятрусь.**

Падзелім папалам.

**Чырвонаармеец.**

На гэта я сваю згоду дам.

**Пятрусь.**

Матка мая таксама з голаду паміраае...

**Чырвонаармеец** (*абнімаючы яго*).

Слухай, генэралы ўцякаюць,
На поўдзень, дзе хлеб, ужо адчынены шлях,
Цяпер мы ня будзем уздыхаць:
Вораг у магіле.

**Буржуй** (*за шырмай*).

Ну, гэта яшчэ вам не па сіле.
Вось вам падарунак,
Добры будзе пачастунак!
Пазнаёмцеся з ангельскім лёрдам,
Займецеся з ім, калі ласка, спортам!
(*Вылазіць лёрд у шлеме, з вялізнай сківаццай і з моноклем—адно вочка з акуляраў*).

**Пятрусь** (*хаваецца за чырвонаармейца*).

Вось страшыдла, дык страшыдла!

**Чырвонаармеец.**

А мы яго чырвонаармейскім шылам! (*Выстаўляе штык*).

**Л ё р д.**

Хачу зямлі, хачу грошай!

**Пятрусь** (*з-за сьпіны чырвонаармейца*).

А гэтага (*паказвае кулак*) хочаш?

**Л ё р д.**

Хачу вуглю, хачу газы...

**Пятрусь** (*чырвонаармейцу*).

Загані яго ў кут, заразу!

**Л ё р д.**

Я тут гаспадар.

**Чырвонаармеец.**

А праз момант тваіх тут і пят ня будзе відаць. (*Кідаецца на яго*).

**Л ё р д** (*адбіваючыся*).

Год сэйв зі кінг!

**Чырвонаармеец.**

Мала. (*Б'е яго па шлеме*).

**Пятрусь** (*пхае лёрда*).

Ну, можаш каціцца!

**Л ё р д** (*лезе ў ніз*).

Вось і квіта! (*Уздыхае і зьнікае*).

**Пятрусь і чырвонаармеец.**

За ім у пагоню! (*Садзяцца на сваіх коніках з ляляк і хаваюцца*).
Ляцеце коні!

**Буржуй** (*памалу вылазячы*).

Ціха!
З пагодай ліха,
Але набіты кішэні.
Ёсьць розныя пляны і для прыцэлу мішэні. (*Расхаджвае*).
Ну, бальшавік, пачакай ты,
Пушчу на цябе я Урангеля-ката.
І яшчэ сотню антантаў! (*Кліча*).
Эй, кулак-спэкулянт!

**Кулак-спэкулянт** (*вылазіць з мяшком за сьпіной*).

Чаго жадалі? Гатоў я на паслугі!

**Буржуй.**

Ты лепшы у мяне з усіх вось верных слугаў. (*Абнімаюцца*).
Што ў цябе за мяшок?

**Кулак-спэкулянт.**

Мяшок з мукой. Набіты добра;
Прадаю ўсё ў горадзе,
Спэкуляцыя у мяне ў модзе,
Зьдзіраю астатнюю скуру,
Патрабую грашыма і натурай,
Уціскаю ўсіх бедных...
Вось, які я кулак ненаедны!

**Буржуй.**

А ад бальшавікоў табе смачна?

**Кулак.**

Каб яны селі макам!
Не даюць жыць.

**Буржуй.**

А ты ім сябе пакажы!

Генэралы б'юць сьпераду, а ты ззаду бі!

Ну, ну, дай згоду, хрыста радзі!

**Кулак.**

Згодзен, згодзен паслужыць за адплату.

**Буржуй.**

Тады ідзі ў бойку,
Вось табе вінтоўка,
Зьнімай кафтан,
Надзявай жупан. (*Надзяе на кулака чырвоны жупан*).

Вось табе шашка—не давай маху,
Бось табе бандыцкая папаха. (*Выцягвае з-за шырмы каня*).

Вось конь, ня конь—агонь.
Самы дарагі, чатыры нагі,
Хвост трубой, каці на бой! (*Кулак ускаквае на каня, той брыкаецца*).

**Бандыт.**

На кані сядзіць удалы бандыт. (*Конь брыкаецца*).

Карак з двох жыл,
Госпадзі, памажы! (*Скача*).

**Буржуй.**

Скачы здароў рабаваць. (*Бандыт хаваецца*).

Эй больш сюды падаць... (*Нахіляецца за шырму*).

Пан, а пан, да вас ёсьць дзела!

**Пан** (*за шырмай*).

Яшчэ польска ня згінэла!
Чым магу служыць расійскаму пану?

**Буржуй.**

Дапамогай!

**Пан.**

Ня ведаю дарогі.

**Буржуй.**

Я вам яе пакажу
За багатую ўзнагароду,
Толькі зьвяжэце рабочых дротам—
Аддам Беларусь і Украіну.

**Пан** (*зьнізу*).

Далажу ўсе стараньні.
Пачынаю ваяваць. (*Страляе за шырмай*).

Раз, два, тры, чатары, пяць. (*Крыкі за шырмай*).

**Буржуй.**

Ну, узяло наша!
Заварылася добрая каша! (*Хаваецца*).

**Чырвонаармеец і Пятрусь** (*выскаквае*).

Хто страляў?

**Пятрусь.**

Што за сініца?

**Чырвонаармеец.**

Ды гэта на польскай граніцы!
Ідзем адбіваць паноў. (*Хаваюцца*).

(*Урангель і бандыт вылазяць разам, цягнучы за сабой селяніна*).

**Бандыт** (*селяніну*).

Будзь здароў!

**Урангель.**

Табе гавару—
На сьмерць запару.
Я—генэрал Урангель!

**Бандыт.**

А я—бацька ангел!

**Урангель.**

Бандыт, цягні вяроўку.

**Бандыт.**

Вось гэта толкам. (*Выцягвае вяроўку*).
Павесім цябе, недавярка.

**Урангель.**

Ня будзеш сядзець на панскім карку,
Аддавай зямлю і фальваркі,
Служы рабом,
Стукайся пану ў ногі ілбом!

**Селянін.**

Ня хочу служыць і ня буду.

**Урангель** (*крычыць*).

Кажу табе, нягоднік:
Служы з рабочым разам у згодзе.

**Селянін.**

Ні завошта на сьвеце!
Хоць забеце!
Няхай жывуць Саветы! (*Стараецца вырвацца*).

**Бандыт** (*надзяе яму шыбеніцу на шыю*).

Зараз павесім, перад сьмерцю маліся. (*Стрэлы з трашчотак за шырмай. Крычаць „ура“*).

**Урангель.**

Сьцеражыся! (*На сцэну выбягае чырвонаармеец*).

**Чырвонаармеец.**

Цяпер твой чарод.

**Селянін.**

Ратуй, працоўны народ!
(*Барон, бандыт і чырвонаармеец б'юцца*).

**Чырвонаармеец.**

Вось табе, барон,
Карона і трон! (*Страляе*).

**Голас Пятруся.**

Барон—хлоп!
Гэта—Перакоп.

**Урангель** (*храпе*).

Нічога не папішаш,
Уцякаем за граніцу, як рудыя мышы!
(*Хаваецца*).

**Чырвонаармеец** (*зьнімае вяроўку з селяніна. Бандыт скача на кані ўзад і наперад*).

**Селянін** (*цісьне руку чырвонаармейца*).

Дзякую, таварыш,
Выратаваў ад гэтых твараў!

**Бандыт.**

А вось я скачу, скачу,
Засяку, каго захачу.
Тут спалю я сенажаць,
Там цягнік будзе ляжаць,—
Ад маёй усё рукі,—
Вось які я, вось які!

**Селянін.**

Пара і да яго дабрацца! (*Паказвае на бандыта*).

**Бандыт.**

Паспрабуй паганяцца! (*Скача, яго наганяюць Пятрусь, чырвонаармеец і селянін*).

**Чырвонаармеец.**

Трымай з гэтага боку!
А я на дапамогу!

(*Усе кідаюцца да яго*).

**Селянін** (*хапае яго*).

Ага, лёгкі на ўспаміны!

**Бандыт.**

Уцякаю ў Румынію. (*Уцякае*).

**Чырвонаармеец.**

Ворагі пабіты. Можна адпачыць.

**Селянін** (*наладжвае саху, запрагае бандыцкага каня*).

Цяпер я буду араць!

**Чырвонаармеец.**

Я на завод! (*Зьнімае шынэль і шлем і перадае Пятрусю*).

А ты на маё месца. (*Надзяе шапку, бярэ молат*).

**Пятрусь.**

Буду трымаць з гонарам. (*Надзяе чырвонаармейскую форму*).
Ля чырвонага сьцягу
Даю чырвонаармейскую прысягу—
Стаяць на варце,
Ад ворагаў усіх працоўных абараняць.
Прагналі паноў з палацаў,
Абараняю цяпер вольную працу!

(*Рабочы стукае малатком, селянін арэ, Пятрусь-піонэр стаіць на варце*).

**Рабочы.**

Трэба старацца.

Вось узмацнім коопэрацыю! (*Вешае маленькі лёзунг-плякат з надпісам „Коопэрацыя“*).

### Селянін.

Гаспадарка зьменіць характар—
Набудзем трактар! (*Выпрагае каня, выцягвае чорную каробку-трактар, арэ на ім*).

### Рабочы.

Заводы будуем—
Пачынаем Волхаўбуды!

### Селянін.

Прамільганула штосьці. (*Прыглядваецца назад*).

### Пятрусь.

Гэта ангельскі лёрд
Бегае, як шалёны кот,
Скрыгоча зубамі ад гневу
Цьвёрдалобы леў!

### Лёрд (*зьяўляецца*).

Хачу ізноў ваяваць,
Усіх забіваць,
Душыць газам,—
Узяць СССР разам! (*Хаваецца*).

### Селянін.

Хоча ваяваць—
Ня будзем з ім гандляваць!

### Рабочы (*Пятрусю*).

Пільна за імі сачы
Удзень і ўначы,
А калі справа сур'ёзнай стане,
Пойдуць з табой рабочыя і сяляне.

### Пятрусь-піонэр.

Мы за саветы гатовы заўсёды.
Яшчэ раз вітаю з кастрычнікам дзесятым.
Канчаю на гэтым сваё прадстаўленьне.
За ўсе недахопы прашу прабачэньня.
Былі жарты, было і ўсур'ёз,
Яшчэ нямала будзе пагроз.
А ну, адказвайце сотняй ратоў:
Будзь гатоў!

### Уся заля.

Заўжды гатоў!

*Канец.*

---

ахаладзіўшыся, загартуецца так моцна, што будзе рэзаць шкло адломаным краем і павінна лёгка ламацца.

Калі загартоўка йголкі ня ўдасца, паспрабуй яшчэ раз яе нагрэць, але помні, што трэба апусьціць у ваду вельмі хутка.

Калі і другі і трэці раз нічога ня выйдзе, значыцца, табе папалася йголка з кепскай сталі, трэба узяць другую.

Загартованы канец іголкі будзе лёгка рэзаць (рысаваць) вастрыё нават добрага нажа. Рэзаць трэба не вастрыём іголкі, а адломаным краем яе.





Цяпер табе трэба «адпусьціць» тваю загартованую йголку. Гэта трэба зрабіць вось як. Абчысьціць іголку, каб яна зноў блішчэла; гэта можаш зрабіць анучкай, пасыпанай тоўчанай цэглай. Потым зноў устаў іголку ў палачку гострым канцом і на запалцы пачні награваць іголку, не з канца, а з сярэдзіны йголкі. Старайся пры гэтым, каб на йголку не садзілася сажа. Сачы ўважліва, як па блішчастай іголцы пабягуць ад награваемага месца каляровыя палоскі. Ад награваньня йголка прымае такія колеры: жоўты, руды, чырвоны, фіалетавы, сіні.

Ты павінен уважліва сачыць за колерам. Калі канец іголкі зробіцца сьветла-жоўтым,— пакінь награваць. К гэтаму часу нагрэтыя часткі яе пасінеюць. Там, дзе будзе сіні колер, іголка будзе досыць лёгка згінацца, а дзе будзе жоўты колер, яна застанецца цьвёрдай, але згубіць сваю ломкасьць.

Ты можаш прыгатаваць сабе некалькі йголак і пры дапамозе іх даведаешся, як моцны і востры выбіраемы нож.

*Нож не павінен рысавацца іголкай, канец якой афарбаваўся ў чырвоны колер, можа рысавацца сьветла-жоўтай іголкай.*

Ты можаш і не дапаліць іголку, а пасьля ломкую недагрэтую частку адламаць. Набор такіх іголак можа табе вельмі дапамагчы пры выбары добрага нажа.

**Д. Галанін.**

ЦАНА 20 КАП.




## Рэдкая монэта.

Зборшыку рэдкасьцяй паведамілі, што ў Рыме ў часе раскопак знойдзена монэта з надпісам на латынскай мове:

53 год да Н. Х.

—Монэта, бязумоўна, падробленая,—адказаў зборшчык рэдкасьцяй.

Як ён мог ведаць гэта, калі яя бачыў яе?

N.

№ 6.

Дадзены молат разрэзаць на найменшы лік частак і злажыць з іх квадрат.



Рэбус.



Рэбус.



### Задачка

| | | | |
|---|---|---|---|
| ўмя | свой | зда | га |
| ро | нізм | цоў | ! |
| вай | | ар | будзь |
| | вым | | |

Ходам шахматнага каня прачытайце піонэрскі летні лёзунг.

№ 5.

Пераставіць суглосныя літары так каб можна было прачытаць па парадку 4 словы (між іншым—назва часопісі, рэк Латвіі), а па ломанай сьпіралі—4 словы і суглосная літара.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Б | О | Т | Ы |
| Р | Я | К | М |
| А | С | А | А |
| М | Л | А | П |



Менск, 1-ая дзярж. друк. Заказ № 3537—2850. Галоўлітбел. № 26430.